# ВЕР-НЕ-ВЕР

Любімы Астрон! Горача прашу цябе, выясні мне некалькі мучачых мяне ў апошні час сноў. Часта сніцца мне новая кватэра і што я буду перабірацца туды або ўжо жыву там. Кватэра гэта бывае раз у сучасным блоку, раз недзе на вёсцы або ўвогуле ў незнаёмым месцы. Заўсёды трапляю я туды ўначы і ніколі не свеціць сонца.

Заадно вельмі прашу выясніць, што абазначае, калі выцягваеш са студні ваду. Былі тры студні. Адна — вельмі глыбокая, але амаль пустая. Я хацела набраць з яе вады, але вядзерца выцягнула толькі крышачку вады. Побач стаялі дзве поўныя студні, і суседка параіла мне, што я змагу набраць адтуль вады без ніякіх цяжкасцей. Але я ўжо не набірала вады, бо прачнулася. Ці абазначае гэта пахаванне?

Марыя

Што датычыцца першай серыі сноў. Чакае вас, на жаль, здрада ў каханні. Нічога дзіўнага, што не свеціць пры гэтым сонца; бо абазначала б яно светлае і радаснае жыццё, а яно не ідзе ў пары са здрадай.

Другая серыя сноў якраз пацвярджае першую. Адкуль вы ўзялі пахаванне? Проста чакае вас нейкая няўдача, фальш, расчараванне і страта (вы ж ніяк не маглі набраць поўнага вядра вады са студні). Разгляньцеся, аднак, навокал. Былі ж яшчэ дзве поўныя студні побач, можа яны прынясуць вам шчасце і поспех...

**Астрон**

# Куток практычных ведаў




## ЯК РАЦЫЯНАЛЬНА АРГАНІЗАВАЦЬ МЫЦЦЁ ПОСУДУ?



Мыццё посуду і розных кухонных прылад займае заўсёды нямала часу. Значна лягчэй і зручней будзе ісці гэта праца, калі адпаведна будзе абсталявана дзеля гэтага спецыяльнае месца. Варта пры гэтым напомніць, што, напрыклад, мыццё посуду, сагнуўшыся, патрабуе на 1/3 энергіі больш, чым у стаячай пазіцыі.

Найбольш адпаведная вышыня століка з устаўленымі міскамі — 90 або 85 см.

Падставовыя прынцыпы правільнай арганізацыі месца для мыцця посуду:

1) ракавіна (злеў) павінен заўсёды знаходзіцца з левага боку ад міскі, у якой мыем посуд.

2) посуд для паласкання павінен знаходзіцца з левага боку ад злеву.

3) добра было б, каб месца гэта знаходзілася недалёка ад акна.

Замест таго, каб выціраць посуд, можна прымяняць спецыяльныя сушылкі, на якіх посуд абсыхае сам. Гэтую сушылку можна паставіць на століку побач з месцам для змывання посуду, але можна таксама павесіць яе на сцяне.

Вялікае значэнне ў гаспадарскіх занятках мае таксама адпаведнае размяшчэнне посуду для адпадаў. У сегментных мэблях паўсюдна прымяняецца паліца для вядра, падвешаная на дзвярах шафкі, якою аббудавана ракавіна. У другой яе частцы ёсць месца для вядра з вадой. Каб набраць вады, адхіляецца верхняя крышка, як паказана на малюнку.

**Гаспадыня**

# Сардэчныя тайны

Дарагое „Сэрцайка“! Мне 20 год. Жыву я на вёсцы. На калядныя святы ў нашай вёсцы была забава, і я з сяброўкай пайшла пагуляць. Ніхто мне не падабаўся, апрача аднаго хлопца. Я вельмі хацела з ім танцаваць і, на маё шчасце, ён падыйшоў да мяне і мы пачалі з ім гуляць. Разам правялі мы цэлы вечар. Дамовіліся сустрэцца праз тыдзень. Абяцаў быць і быў. Пасля я даведалася ад маёй сяброўкі, што ён жанаты і мае нават дзіця. Калі я сустрэла Юрку, сказала яму аб гэтым. Аднак ён не прызнаўся, гаварыў, што ўсё гэта хлусня. Але ад тае пары я не мела спакою. Потым плюнула на ўсе гэтыя гаворкі, пачала з ім сустракацца, ну, і пакахала яго. Неўзабаве, аднак, я даведалася канкрэтна, што ён жанаты і мае дзіця. Цяпер ён ужо не выкручваўся, сказаў, што з жонкаю не жыве ўжо год часу і не думае да яе вяртацца, што ажэніцца са мной, калі толькі я згаджуся. „Сэрцайка“, прашу ў цябе парады, што мне рабіць? Я ж яго так моцна кахаю.

Аля

Аля! Не спяшайся са шлюбам. Юрку ты мала ведаеш. За такі кароткі час цяжка пазнаць, які ён сапраўды. Ён жа пакінуў жонку і дзіця, ды і табе праўды адразу не сказаў. Хто ведае, ці калі-небудзь не задумае вярнуцца да іх, ці не скажа табе, што гэта з-за цябе не жыве ён з жонкай? Падумай, разваж усё, пакуль зробіш гэты вельмі важны ў жыцці крок.

**Сэрцайка**

# Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Муж п'янстваваў і скандаліў. Жонка звярталася нават у гэтай справе да пракурора, перад якім муж абяцаў, што паправіцца, аднак слова не стрымаў. Жонка выставіла на лесвічную клетку чамадан з рэчамі мужа і ў кватэру яго не пусціла. Кватэра кааператыўная і запісана на мужа. Ці можа муж патрабаваць, каб выселілі жонку, а прынамсі, каб не перашкаджала яму ў супольным карыстанні жылплошчай?

АДКАЗ: Калі кватэра набыта пасля шлюбу, то незалежна ад таго, на каго яна запісана, з'яўляецца супольнай уласнасцю мужа і жонкі. Калі б была ліквідавана маёмасная супольнасць, суд можа прыдзяліць у гэтым выпадку кватэру жонцы або мужу.

Жонка не мела права самавольна выселіць мужа і, фармальна беручы, ён можа патрабаваць, каб суд звярнуў яму супольнае валоданне. Аднак калі паводзіны мужа, як сцвярджае жонка, дрэнныя, суд, беручы пад увагу нормы грамадскага сужыцця, можа не ўзяць пад увагу патрабаванне мужа. Муж з-за гэтага сваіх маёмасных правоў на кватэру не страціць, але зможа іх рэалізаваць дзякуючы падзелу супольнай маёмасці. Падзел можа быць праведзены толькі пасля таго, калі маёмасная супольнасць паміж імі будзе ліквідавана спецыяльным рашэннем суда або ў выніку разводу.

# Этнаграфічнае акенца



*Падляўкова.* *Фота. Я. Цялушэцкага*




— Ах ты сабака! — калоцячыся ад злосці, хрыпеў Шчарбак. — Ён яшчэ абураецца, ён выкручваецца. Глянь во! — і паказаў хлопец у дол, дзе па-ранейшаму нерухома ляжаў маёр. — Во што ты нарабіў, свалата прадажная. А яшчэ сержант! А яшчэ пісар! Ну чакай! Ад мяне ты не ўцячэш. Я цябе з-пад зямлі дастану!

— Ды што ты? Што ты на мяне накінуўся? Я яго кіламетр цягнуў. Але ж ён памёр! Зразумей! Памёр... я думаў. Таму і паклаў. Як жа несці? Немцы вакол. Сам жа ведаеш, чалавек ты!

Ён ужо зразумеў, што небяспека мінула, і нават паспрабаваў фальшыва ўсміхнуцца, каб упэўніць Шчарбака, што той памыляецца.

Іван нервова запіхаў у кабур пісталет і, не зводзячы з пісара цяжкага позірку, зморана і злосна хрыпеў:

— Свайго камандзіра, свайго начальніка параненага кінуць пад самым носам у ворага! От свалата, от жа нягоднік! А што цяпер? — Ён цяжка і павольна апусціўся на калені перад маёрам. Рукі памарожаны, ногі, пэўна, таксама. Ну, дай цяпер рады. Як дасі?

Цімошкін таксама падаўся да маёра — шызы шынель таго на плячах і грудзях быў у рудых падмёрзлых плямах крыві, пабялелы твар здаваўся зусім нерухомы, толькі пад вокам неспакойна торгалася нейкая маленькая жылка. Маёр даўно, відаць, страціў прытомнасць і ціха стагнаў у часе кароценькіх неглыбокіх уздыхаў.

— Цяпер ты яго панясеш, воўчая душа, — паднімаючы ад параненага галаў, сурова сказаў Шчарбак. — Адсюль і да канца.

Пасля ўдвух з Цімошкіным яны пасунулі маёра глыбей пад застрэшак, Блішчынскі ўслужліва разварушыў салому, дапамог ухутаць ёю маёравы ногі. Выраз сержантавага твару быў яшчэ насцярожаны, але ў позірку паступова з'яўлялася хітраватая ўпэўненасць. Шчарбак раззлавана і заклапочана хмурыўся.

— У яго, бач ты, яшчэ і рука прастрэлена, крыві шмат выцекла. Цяпер, глядзі, што робіцца, — ён прыўзняў з саломы маёраву далонь. — Каб чаго кепскага не сталася. Памарожана.

Рука сапраўды была страшная, нейкая дужа белая і распухла-азызлая, ды і наогул маёр быў ледзьве жывы. Дзіўна было Цімошкіну бачыць знаёмую вялікую постаць гэтага чалавека, іхняга камандзіра, і разумець, што цяпер ён зусім ужо не той, адна прысутнасць якога надавала артылерыстам упэўненасці і сілы ў баі. Цяпер ён быў слабейшы за якое дзіця. Але ім не патрэбна была яго сіла — яны прагнулі толькі, каб ён ачнуўся з забыцця, загаварыў, убачыў, у якую бяду трапілі хлопцы, і што-небудзь параіў.

Шчарбак нейкі час сядзеў над ім, самкнуўшы над ілбом строгія бровы, і нешта ўпарта-напружана думаў. Адчуўшы, што сябар пакрысе адышоўся ад свайго гневу і крыху спачыў, Цімошкін спытаўся:

— Дык як жа гэта сталася? Пайшоў за Здабудзькам, а знайшоў маёра?

— Як сталася? Знайшоў Здабудзьку. Забіты. Прама ў патыліцу. Пасля зблудзіў. Такая цемра, снег. Хадзіў, хадзіў і згубіў вас. Натрапіў на кукурузу. І вось маёра знайшоў. Той жа гад кінуў яго... Маёр сам сказаў. Яшчэ прытомны быў.

— Каб жа я ведаў, а то гляджу — сціх — ну, думаў, памёр, — з фальшывою горыччу азваўся Блішчынскі. Ён стаяў над імі, прыхінуўшыся плячом да сціrты, і з цікаўнасцю зазіраў на маёра. Дзіўна было, як хутка ён забыўся на шчарбакову лютасць і цяпер імкнуўся зрабіць выгляд, быццам нічога сур'ёзнага між імі не здарылася. Шчарбак пагрозлівым позіркам змераў яго:

— Ты маўчы лепш! Ось выйдзем — я з цябе спаганю. Бязлітасна спаганю! Не думай, што адбаярыўся.

Усе памаўчалі трохі, Шчарбак першы раз паглядзеў навокал — на снегавое поле, вінаграднік, дрэўцы, хутар, раскапаны немцамі пагорак удалечыні.

— Прайсці не спрабавалі?

— Не. Як жа пройдзеш: немцы кругом.

— А я ледзьве дарогу перайшоў. Зранку сядзеў. Добра, што на лясок натрапіў... — казаў ён, азіраючыся. — Ах ты халера, от бяда! І трэба маёра ратаваць. Цяпло яму патрэбна. Можа якую аперацыю. А то загіне да вечара.

— Ведама ж. Не дужа ў саломе нагрэеш, — уставіў сваё Блішчынскі. Выгляд у яго быў незалежны, але свае разважанні ён кінуў, відаць, усё ж асцерагаўся Шчарбака. Шчарбак зноў нічога не адказаў яму.

— Як жа гэта ты валок яго такую далеч? — спытаў Цімошкін у сябра.

— Ведаеш, не раз ужо думаў: упаду і здохну. Але валок. Як жа кінеш: свой чалавек.

Ён памаўчаў і зусім ужо сцішаным тонам спытаў:

— Курыць, вядома, няма?

— Няма, брат.

— Кепска... А я ось у Здабудзькі паперы ўзяў. — Шчарбак выцягнуў нагу, дастаў з кішэні пацёрты пачак дакументаў. — На, ты ж грамацей — адпішаш. Як выйдзем...

Цімошкін узяў з яго рук згорнутую ў паперку чырвонаармейскую кніж-

